№№155–156
(3694–3695)

5 кастрычніка 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Папа Рымскі благаславіў беларусаў

Папа Рымскі Бенедзікт XVI цікавіўся апошнімі падзеямі ў Беларусі падчас сустрэчы з амбасадарам Ватыкана ў Мінску арцыбіскупам Клаўдзіа Гуджэроці.

*“Падчас сустрэчы ў Ватыкане з апостальскім нунцыем у Беларусі* ***Клаўдзіа Гуджэроці*** *Папа пацікавіўся апошнімі падзеямі ў краіне і перадаў спецыяльнае благаславенне для католікаў Беларусі і ўсяго беларускага народа”,* — паведамілі “Інтэрфаксу” прадстаўнікі Рыма-каталіцкага касцёла.

Там таксама паведамілі, што на мінулым тыдні *“ў знак павагі да паўсюднага маральнага аўтарытэта Святога Айца і гуманітарнай місіі Апостальскай сталіцы ў рамках двухбаковых дыпламатычных стасункаў прадстаўнік пантыфіка ў Беларусі арцыбіскуп Клаўдзіа Гуджэроці быў упаўнаважаны правесці сустрэчы з некаторымі зняволенымі ў турмах краіны:* ***Каваленкам, Сырамалотавым, Статкевічам, Бяляцкім, Дашкевічам, Лобавым і Севярынцам****”.*

*“Апостальскі Нунцый сустрэўся з кожным з гэтых зняволеных у месцах пазбаўлення волі, пацікавіўся іх самаадчуваннем, выслухаў і запэўніў пра малітву Святога Айца і католікаў за іх і іх сем’і”,* — адзначылі прадстаўнікі Рыма-каталіцкага касцёла.



БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## Скандал у Страсбургу

*Афіцыйнага прадстаўніка Беларусі выправадзілі з залы пасяджэнняў*

У чацвер у Страсбургу палітычны камітэт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы зноў разглядаў “беларускае пытанне”. Падчас дэбатаў здарыўся скандал — афіцыйнага прадстаўніка ўрада Беларусі выправадзілі з залы, бо ён не меў спецыяльнага запрашэння.

У адкрытым для прэсы пасяджэнні камітэта ПАСЕ прынялі ўдзел беларускія праваабаронцы — старшыня РГА “Беларускі Хельсінкскі камітэт” Алег Гулак і намеснік кіраўніка зачыненага ўладамі праваабарончага цэнтра “Вясна” Валянцін Стэфановіч. Што адбывалася за зачыненымі дзвярыма пасяджэння, не вядома.

Спецыяльная рэзалюцыя Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы па сітуацыі ў Беларусі будзе падрыхтавана да студзеня 2013 года. Пра гэта ўчора, 4 кастрычніка, заявіў дакладчык Асамблеі эстонскі дэпутат Андрэс Херкель.

*“Праца над дакументам пачнецца ўжо ў лістападзе,* — адзначыў Херкель. — *Цалкам магчыма, што ў студзені наступнага года даклад будзе гатовы”.*

Паводле ягоных слоў, Асамблеі трэба будзе перш за ўсё даць палітычную ацэнку парламенцкім выбарам, якія прайшлі нядаўна ў нашай краіне. *“Наш апошні даклад па тэме адносіцца да пачатку 2012 года. Мы шкадуем, што сітуацыя з правамі чалавека і дэмакратыяй за мінулы час толькі пагоршылася. Цяпер у Беларусі 12 палітычных зняволеных,* — канстатаваў дакладчык. — *Стан здароўя некаторых з іх выклікае асаблівую заклапочанасць”.*

Дыпламатычная мова, шчыра кажучы, у дадзеным выпадку патрабуе перакладу. Справа ў тым, што калі Еўропа ў чарговай рэзалюцыі зноў канстатуе “заклапочанасць” і “незадаволенасць”, то пра замежныя інвестыцыі, пра паспяховыя перамовы аб крэдытах з Міжнародным валютным фондам, Сусветным банкам, аб уступленні ў Сусветную гандлёвую арганізацыю можна забыцца. А грошы ж так патрэбны...

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

**ДАРЭЧЫ**

## Кандыдатуру Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру падтрымалі аднагалосна

Як паведамляе карэспандэнт ИТАР-ТАСС са Страсбура, кандыдатура Алеся Бяляцкага знайшла аднагалосную падтрымку сяброў камітэта ПАСЕ на Нобелеўскую прэмію міру. Гэтае рашэнне было агучана на пленарнай сесіі ПАСЕ.

Упершыню вылучыць беларускага праваабаронцу прапанавала ў студзені гэтага года група дэмакратаў і лібералаў ПАСЕ, і адпаведную петыцыю падпісаў 41 еўрадэпутат. Пасля гэтую ідэю ўхваліў дакладчык ПАСЕ па Беларусі эстонскі дэпутат Андрэс Херкель.

Алеся Бяляцкага таксама намінавалі 190 дэпутатаў польскіх Сейма і Сената, 5 дэпутатаў украінскай Вярхоўнай Рады. Асобныя намінацыі Бяляцкага накіравалі ў Нобелеўскі камітэт дэпутаты парламентаў Чэхіі, Славакіі, Нарвегіі, а таксама прэм’ер-міністр Славакіі Івета Радзічава і лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 2003 года з Ірана Шырын Эбадзі.

Рашэнне Нобелеўскага камітэта чакаецца ў кастрычніку.

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

## За што?

Не ад першага чалавека пачула: “Ну перад кім правініліся мінчане?” Так, галасуем дрэнна, над многімі пасажамі ўлады пасмейваемся. І пра адно не змаўчым, і пра другое...

Але ж Мінск розны. Чаму павінны цярпець “от нелюбви” старыя, нямоглыя?

Спраўна хадзілі, галасавалі, слухалі з прыдыханнем. Пра душэўны камфорт правадыра пякліся. “Настаялі”, каб герой новы не ездзіў на працу па праспекце, названым імем героя былога: паклапаціліся, каб не турбавалі яго прывіды мінулага... Не бунтавалі і не мітынгавалі. Дагаджалі.

Дык за што ж іх, нашых мінскіх старых, так не любіць сённяшняя ўлада?

Пенсійны закон у краіне на ўсіх адзін. У вёсцы ты жывеш, у абласным цэнтры, у сталіцы — пенсія налічваецца па адным прынцыпе. Чаму тады трэба было пакрыўдзіць менавіта мінскіх пенсіянераў?

Вось зараз павысілі кошт праезду ў грамадскім транспарце. За адзін талончык у Мінску цяпер трэба заплаціць 1700 рублёў, а ў абласных цэнтрах — 1400.

Месячны праязны на адзін від транспарту ў Мінску 72.900, а ў Брэсце — 58.800...

На два віды транспарту — 78.300 у Брэсце, 78.500 рублёў — у Магілёве, прыкладна столькі ж у іншых абласных цэнтрах. А ў Мінску — ажно 97.500... Працягласць маршрутаў розная? А калі пенсіянеру трэба пад’ехаць усяго толькі да наступнага прыпынку?

Кошт бензіну адзіны па ўсёй краіне, аўтобусы-тралейбусы, падаткі — адны і тыя ж. Памер пенсіі, даходы людзям сталага веку па ўсёй краіне налічваюцца аднолькава. Чаму тады мінскі пенсіянер павінен за праезд плаціць больш, чым магілёўскі? Ці гомельскі? Ці брэсцкі? Чым ён правініўся перад гэтай дзяржавай і гэтай уладай?

Чаму для яго больш высокія тарыфы ЖКГ? Чаму менавіта ў сталіцы на падагрэў вады патрэбна самая вялікая колькасць тых гігакалорый? Іншымі словамі, чаму нават памыць талерку ў Мінску даражэй, чым у Віцебску ці ў Барысаве?..

Добра — мы, маладзейшыя, з намі ўсё ясна. Але чаму менавіта мінскія пенсіянеры павінны быць самымі беднымі ў краіне? У горадзе з самым вялікім бюджэтам старыя не атрымліваюць ні капейкі дапамогі або кампенсацыі за тое, што ўлада карае нас. Тых, хто нарадзіўся ў сталіцы. Тых, хто з розных куткоў Беларусі і Савецкага Саюза ўцякаў сюды ад хам’я, бескультур’я, безнадзейнасці розных “мядзведжых” кутоў.

Канфлікт сталіцы з новай уладай, якая на самыя лепшыя пасады прыцягнула кожны “сваю вёску”, зразумелы. Яго грашыма не затушыць, ды ніхто даўно і не імкнецца. Але нашы старыя... Яны ж даўно новым гаспадарам Мінска нічога не даказваюць. Гарбацяцца на лецішчах, як самыя што ні на ёсць вясковыя. І сваімі ўраджаямі любой вёсцы фору дадуць. А калі ўжо не могуць тыя грады ўскопваць — галадаюць і калупаюцца на рынках у скрынях з розным гніллём. Нічога не просяць, як здолеюць — так і выжываюць. Таму што з беларускімі памерамі пенсій і цэн і ў Віцебску нялёгка пражыць, і ў Магілёве, але ў Мінску — зусім немагчыма. Пенсіянерам у Маскве даплачваюць, у сталіцы Беларусі — адбіраюць.

І яны ж, старыя, Лукашэнку рукі цалавалі! Менавіта каля мінскага Кафедральнага сабора яны яму рукі цалавалі... Тады за што іх пакаралі?

З НАГОДЫ

## ...Не ганьбячы звання Інтэлігента



У Беларусі больш за 107 тысяч педагагічных работнікаў, якія працуюць ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі. Сярод іх 94.295 настаўнікаў-прадметнікаў, 91,9% маюць вышэйшую адукацыю.

Па словах міністра адукацыі **Сяргея Маскевіча**, дэфіцыту педагагічных кадраў у асноўным не адчуваецца, адток спецыялістаў з сістэмы невысокі. Аднак заробкі настаўнікаў толькі за апошнія два гады значна ўпалі. Напрыканцы 2010 года педагогі зараблялі ў сярэднім 427 долараў, сёння іх сярэдні заробак складае 332 долары ў эквіваленце. У той жа час да сённяшніх цэн не падступіцца. Праўда, міністр паабяцаў, што сістэма аплаты працы настаўніка зменіцца. Але ж зменяцца і цэны, і тарыфы на паслугі...

Так, не з лепшым настроем сустракаюць настаўнікі сваё прафесійнае свята, якое сёлета адзначаецца 7 кастрычніка. Але ж хто будзе адстойваць іх правы на больш годнае жыццё, акрамя іх саміх?! Скажам адкрыта: беларускія настаўнікі ў сваёй большасці прывыклі прыслугоўваць, але не навучыліся бараніць свае правы. Жадаем ім прытрымлівацца ідэалаў дабра, чэснасці, годнасці, справядлівасці! Не стаяць на каленях, а годна трымаць галаву, не ганьбячы звання **Інтэлігента.**

ЭКАНОМИКА

## Сокращение поставок российской нефти вызовет дефицит валюты в обменниках?

*В IV квартале поставки российской нефти в Беларусь сокращаются до 4 миллионов тонн с 5,3 миллиона тонн в III квартале.*

*Чем это может обернуться для Беларуси, “Завтра твоей страны” выяснял у независимых экспертов.*

Посол России в Беларуси **Александр Суриков** объясняет сокращение поставок российской нефти “перепоставкой углеводородного сырья в предыдущие периоды”. Однако экономист **Лев Марголин** связывает его с сомнительным экспортом растворителей и разбавителей из Беларуси, из-за которого, по неофициальным оценкам, потери российского бюджета по 2012 году оцениваются в два миллиарда долларов.

— Такие вещи Россия и Путин не прощают, — убежден экономист.

Сокращение поставок нефти, по его мнению, наказание даже не за прошлые грехи, когда белорусские власти воспользовались дыркой в законодательстве — на днях белорусская сторона заблокировала внесенные российской стороной предложения в Совет Евразийской экономической комиссии, которые позволяют исключить на территории Таможенного союза производство и экспорт растворителей, разбавителей, смазочных материалов и биодизельного топлива.

В то же время, по прогнозам российских аналитиков, в связи с остановкой в IV квартале части российских нефтеперерабатывающих предприятий на плановые работы на рынке будет ощущаться некоторый недостаток нефтепродуктов.

— Вопрос мог быть решен таким образом: Россия сохраняет объемы поставляемой в Беларусь нефти, а та в свою очередь увеличивает поставки бензина на российский рынок, — отмечает Лев Марголин. — Но, видимо, все-таки есть достаточно веская причина, которая не позволяет это сделать, и она не зависит от отношений хозяйствующих субъектов.

Сокращение поставок российской нефти негативно отразится на белорусской экономике:

— После потери “курицы”, которая почти восемь месяцев несла белорусам “золотые яйца”, сокращение поставок нефти (а нефтепродукты — один из основных экспортных продуктов на Запад) может серьезно повлиять на сальдо торгового баланса, — прогнозирует эксперт.

Политолог **Валерий Карбалевич** добавляет, что последствия для Беларуси могут быть весьма прискорбными еще и потому, что Украина начала расследование, которое может закончиться прекращением импорта из Беларуси биодизеля.

— Речь идет о повышении тарифов на белорусские нефтепродукты, которые поставляются в Украину, а таких продуктов очень много. Это будет означать сокращение доходов, потому что экспорт нефтепродуктов, включая разбавители и растворители, дает до 40 процентов доходов всего экспорта, — отмечает эксперт.

Сальдо внешнеторгового баланса станет отрицательным, а это может отразиться на обменном курсе белорусского рубля, потому что появится дефицит валюты, в том числе и в обменных пунктах. Таков прогноз Валерия Карбалевича.

Республиканский бюджет на 2013 год, как сообщил журналистам министр финансов Андрей Харковец, сформирован из расчета среднегодового курса 8950 рублей за доллар.

**Геннадий КОСАРЕВ.**

**ТЕМ ВРЕМЕНЕМ...**

### Доллар дорожает

Вчера на торгах установлена самая высокая цена доллара за год — 8 тысяч 590 рублей.

Евро на торгах на Белорусской валютно-фондовой бирже поднялся до отметки 11.120. Что тревожит: предложений купить валюту на торгах было больше, чем продать. Например, 2 октября спрос на евро превысил предложение на 11 млн, на доллары — на 22,5 миллиона.

В обменниках валюта есть. Купить доллары в Минске можно по цене 8600 за 1 доллар. Максимальное предложение — 8690. Евро продают по цене от 11.100 до 11.190 рублей.

## Выкраслілі 8800 мінчан

Выканкамы пачалі выконваць загад Лукашэнкі пераглядзець спісы льготнікаў на будаўніцтва жылля.

У Мінску праверылі толькі чвэрць усяго спісу. Як паведаміў старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька, з пачатку года з чаргі маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў знялі 8800 мінчан. Зверку спісу чаргавікоў плануюць завяршыць да красавіка наступнага года. Цяпер жа, па афіцыйных даных, у чарзе на паляпшэнне ўмоў жылля ў сталіцы стаяць каля 269.000 чалавек.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Звычайны цуд ад БАТЭ

*Сёння распачынаецца продаж адзіночных білетаў на матчы Лігі чэмпіёнаў па футболе. 23 кастрычніка барысаўскі БАТЭ згуляе на мінскім стадыёне “Дынама” з іспанскай “Валенсіяй”, 20 лістапада — з французскім “Лілем”.*

Нагадаем, што на гэтым тыдні БАТЭ сенсацыйна перамог у Мінску славутую мюнхенскую “Баварыю” (3:1). Расклалі на лапаткі 22-разовага чэмпіёна Германіі, фіналіста мінулагодняй Лігі чэмпіёнаў. Зараз у чэмпіянаце краіны “Баварыя” правяла шэсць матчаў і ў шасці перамагла. 19 галоў забілі і толькі два прапусцілі. А тут за адзін вечар хлопцы з беларускага раённага цэнтра накідалі ім “за каўнер” аж тры галы.

БАТЭ пачынае ўжо прывучаць балельшчыкаў да радасных момантаў у жыцці. Перад гэтым барысаўчане перамаглі ў гасцях чэмпіёна Францыі — “Ліль” — 3:1.

Дарэчы, на матчы БАТЭ—”Баварыя аншлага не было. Прыйшло ўсяго 25 тысяч аматараў футбола. Будзем спадзявацца, што на гульні з “Валенсіяй” балельшчыкаў будзе больш. БАТЭ зараз вельмі патрэбна іх падтрымка...

**Алесь СІВЫ.**





**БЕЛАРУСЬ: МОДЕРНИЗАЦИЯ, ВЗГЛЯД В ЗАВТРА**

*Михаил ПАСТУХОВ:*

# «Суды должны служить не власти, а человеку»

*О перспективах судебной реформы в Беларуси корреспондент "Народной Воли" беседует с доктором юридических наук, бывшим судьей Конституционного суда Михаилом ПАСТУХОВЫМ.*



— Очевидно, что сегодня белорусская судебная система уже не отвечает требованиям времени, — отмечает собеседник. — И сейчас можно предложить два подхода к реформированию этой системы. Первое — меры, которые надо бы осуществить незамедлительно. Второе — планы на перспективу.

**— Начнем с первоочередных мер…**

— Первоначально можно согласиться с теми предложениями, которые были озвучены на официальном уровне. В частности, это содержится в Указе главы государства "О совершенствовании системы общих судов". Повысить качество судебной деятельности могла бы специализация судей и создание специализированных судов. Например, административных судов, которые рассматривали бы жалобы граждан на действия органов управления и должностных лиц. Кроме того, нам необходимо отказаться от изжившего себя института народных заседателей, которые практически никакой роли не играют. Их можно было бы заменить профессиональными судьями. Правда, для этого нужно увеличить количественный состав. В Беларуси по сравнению с другими странами на 100 тысяч населения слишком низкий процент судей — около тысячи. Не сравнить, например, с Германией. У нас большой дефицит судей-мужчин. 75 процентов судей — это женщины. Над этим фактом тоже стоит задуматься.

**— Уже давно идут разговоры о создании суда присяжных заседателей. Это важный момент при реформировании?**

— Об этом действительно говорят давно, но принятие решения все время откладывалось. Но я считаю, что эта мера назрела и такие суды присяжных заседателей можно ввести при областных судах, Верховном суде, если рассматриваются дела особой важности и обвиняемые не признают себя виновными в совершении преступления. Кроме того, нужно безотлагательно предоставить гражданам право на прямое обращение в Конституционный суд, если в каких-то нормативных актах нарушаются их права и свободы. Единственный суд, который не работает с гражданами, не рассматривает их обращения, — это именно Конституционный суд. Надо узаконить, чтобы любое обращение в суд было принято, а не отфутболено, как это у нас часто делается.

**— Какими вам видятся более далекие перспективы реформирования судебной системы в Беларуси?**

— В перспективе нам необходимо подумать об обеспечении независимости судей и судов от органов исполнительной власти. От любого диктата со стороны. В том числе от местных органов, которые обеспечивают судей жильем, решают какие-то социальные вопросы. Независимость судов — это то, чего нам так не хватает. Возможно, при их формировании можно вернуться к порядку, который был ранее закреплен в Конституции, когда судьи высших судов избирались парламентом на безальтернативной основе — по предложению судейского сообщества. Наверное, стоило бы ввести в качестве низового звена так называемые участковые суды. Они бы рассматривали более простые дела — гражданские, дела об административных правонарушениях... А районный суд мог бы выступать в качестве апелляционной инстанции. Важный момент и качество судов. Там должны работать только те юристы, которые не запятнали себя сомнительными приговорами и заслужили право работать на этой ответственной должности. Те судьи, которым будут высказаны претензии со стороны общественности, должны освободить кресла. Нужна новая плеяда судей, которые разделяют демократические ценности и уважают права граждан. Да, сегодня мы говорим о далеких перспективах, но хочу отметить, что реформирование судебной системы неизбежно. Та модернизация, которая предлагается сейчас, не решает всех вопросов, связанных с качеством правосудия в Беларуси.

**— То есть белорусские власти сегодня не готовы к коренной реформе судебной системы?**

— О коренной реформе, безусловно, речь не идет, но первоочередные меры судебной модернизации, о которых я говорил, укладываются в установки высшей власти. Так пускай сделают хотя бы это. Сделайте первые четыре шага, которые просто необходимы, чтобы немного улучшить качество белорусского правосудия и повысить защиту прав граждан в судах. Но сейчас судьи сильно зависимы от власти, и трудно представить, что власть пойдет на радикальное изменение ситуации.

**— Из европейского опыта Беларусь могла бы что-то позаимствовать?**

— Конечно. Я считаю, что европейский опыт был бы очень полезен при проведении модернизации и последующем реформировании судебной системы. Наши соседи (те же Польша, Чехия, Венгрия) давно имеют систему, которая отвечает всем необходимым требованиям. Там суды — независимые органы, которые осуществляют правосудие в точном соответствии с законом. Сам факт вмешательства в судебную деятельность становится скандалом, чрезвычайным происшествием. Судья после этого обязан сообщить о факте давления, должны последовать незамедлительные меры в отношении тех лиц, которые пытаются воздействовать на судей. Европейская судебная система уже давно преодолела те недостатки, которые были присущи социалистическому правосудию. А в Беларуси до сих пор сохраняются родимые пятна советской судебной системы. И избавиться от этих пятен очень легко. Было бы желание.

**— Должно ли участвовать общество в обсуждении судебной реформы?**

— Безусловно. Параллельно с теми мерами реформирования, которые предлагаются на госуровне, разрабатывается программа модернизации и представителями гражданского общества. И, повторюсь, все мы должны прийти к одному — чтобы суды обеспечивали защиту прав граждан. Это главное назначение суда. Он призван служить не власти, а человеку. Суды не должны становиться орудием расправы с неугодными оппонентами. Их задача — стоять на страже закона. Когда-то мы к этому обязательно придем...

**Алесь СИВЫЙ.**

**ЧУЛІ?**

## *За стандартную двушку прыйдзецца плаціць 230—240 тыс. рублёў*

З прыходам халадоў жыроўкі беларусаў "пацяжэюць" за кошт дадання паслугі ацяплення.

Аднак аплачваць цяпло насельніцтва будзе пакуль па старых тарыфах — з 1 кастрычніка яны не павялічыліся. Такі прагноз даў намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі **Анатоль Шагун**.

— Натуральна, плаціць за ЖКП прыйдзецца больш, але толькі ў сувязі з тым, што дадасца тая паслуга, якая не прадастаўляецца ў цёплы час года, — адзначыў Анатоль Шагун. — Сярэдні разлік паказвае, што ацяпленне стандартнай 2-пакаёвай кватэры плошчай 48 кв. м з трыма пражываючымі складае каля 75—80 тыс. беларускіх рублёў па дзеючым тарыфе ў месяц. Гэта сярэднегадавая лічба за ацяпляльны сезон з улікам кліматычных асаблівасцяў Беларусі і асаблівасцяў жыллёвага фонду, у якім мы пражываем. Гэта складае каля 30—33% ад плацяжоў. 230—240 тыс. рублёў у месяц складзе аплата ЖКП за такую кватэру ў ацяпляльны перыяд.

**СТАЛІЦА**

## *Наваселле ў метро 7 лістапада*

Тры новыя станцыі мінскага метрапалітэна — "Грушаўка", "Міхалова" і "Пятроўшчына" — плануецца адкрыць 7 лістапада, паведаміў старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька.

Што тычыцца станцыі метро "Малінаўка", яе прадугледжваецца здаць у эксплуатацыю ў 2013 годзе.

Да гэтай жа даты — 7 лістапада — будзе адкрыты рух на ўчастку праспекта Дзяржынскага да Медыцынскага ўніверсітэта.

## *Талончык павінен каштаваць 5 тысяч*

Сабекошт праезду ў грамадскім транспарце Мінска перавышае 5 тысяч рублёў, заявіў Мікалай Ладуцька.

Каля 65% выдаткаў на арганізацыю транспартнага абслугоўвання насельніцтва кампенсуецца з бюджэту, сцвярджае ён.

Ладуцька адзначыў, што ў сталіцы намячаецца рэалізацыя буйнога інвестыцыйнага праекта ў сферы транспарту і камунікацый. Праводзіцца работа па ўкараненні электроннага білета, які дазволіць рэгуляваць цану паездак у залежнасці ад далёкасці, а таксама па абсталяванні прыпынкавых пунктаў электроннымі табло. Праект ацэньваецца ў 150—170 млрд рублёў.

**ШЧЫРАЯ РАЗМОВА**

*Сяргей НАВУМЧЫК:*

# «За эміграцыю нас гадамі папракалі на адным папулярным інтэрнэт-рэсурсе — аж пакуль яго рэдакцыя не была вымушана сама з'ехаць у поўным складзе»

Мы даведаліся, што паплечнік Зянона Пазьняка, намеснік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык стаў грамадзянінам Злучаных Штатаў Амерыкі.



**— Чаму прынялі такое рашэнне? Упэўнена, не адзін палітык у Беларусі папракне вас гэтым, — датэлефанаваліся мы да Сяргея ў Прагу.**

— Атрыманне палітычнага прытулку ў ЗША не азначае атрымання грамадзянства — як не азначае і страты грамадзянства краіны паходжання, — Навумчык пагадзіўся шчыра адказаць на ўсе пытанні. — Гадамі я пры перасячэнні межаў карыстаўся так званым дакументам уцекача, які кожны памежнік правярае па розных базах (я нават казаў на пашпартным кантролі ў аэрапортах: за мной чаргу не займайце, доўга будзеце чакаць). Тэрмін майго беларускага пашпарта скончыўся. Не маючы пашпарта грамадзяніна краіны (няважна якой), ты — чалавек другога гатунку. Я не аднойчы звяртаўся ў дыппрадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь з просьбай выдаць мне беларускі пашпарт (бо атрыманне палітпрытулку не азначае страты грамадзянства), але заўсёды чуў адказ: альбо прыязджайце ў Мінск і рабіце на месцы, альбо афармляйце выпіску з Мінска, увогуле афармляйце пакет дакументаў на пастаяннае месца жыхарства. Гэта абсурднае патрабаванне! У цывілізаваных краінах грамадзянін пры страце альбо сканчэнні дзеяння пашпарта атрымлівае новы пашпарт у дыпламатычнай місіі за некалькі дзён.

У мяне даўно была магчымасць атрымаць грамадзянства ЗША, але я не рабіў гэтага да моманту, пакуль беларускае заканадаўства наўпрост забараняла грамадзяніну Беларусі мець іншае грамадзянства — інакш як толькі пад пагрозай страты беларускага грамадзянства, што для мяне было непрымальна. У 2002 годзе закон быў зменены. Натуральна, я параіўся з людзьмі, меркаванне якіх мне важнае, — з Зянонам Пазьняком, са старшынёй Рады БНР Івонкай Сурвіллай, некаторымі іншымі лідарамі беларускай дыяспары, канешне, са сваімі блізкімі.

...Разумею падтэкст вашага пытання. І адкажу, што бачу ў гэтым не "здраду Радзіме", а вынік умоў, створаных у Беларусі цяперашнім рэжымам. Наколькі мне вядома, былыя дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання Сяргей Слабчанка і Вольга Галубовіч жывуць, адпаведна, у Канадзе і Вялікабрытаніі і маюць грамадзянства гэтых краін. Гэтыя людзі столькі ў свой час зрабілі для Беларусі, што, калі больш нічога не зробяць, а будуць, напрыклад, адпачываць ці вырошчваць ружы, яны ўвойдуць у гісторыю.

Увогуле, ведаю дзясяткі людзей, якія маюць беларускае грамадзянства і грамадзянства іншай краіны, што звязана з немагчымасцю для іх жыць і працаваць на Радзіме. Што да магчымасці альбо немагчымасці ўдзелу ў грамадскім жыцці, дык нагадаю, што прэзідэнт Літвы Адамкус меў амерыканскае грамадзянства, грамадзянінам ЗША быў прэзідэнт Эстоніі Ільвес, прэзідэнт Латвіі Фрэйберга мела канадскае грамадзянства, а цяперашні пераможца на выбарах у Грузіі — французскае. І мяне ніхто не пераканае, што грамадзяне ЗША Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік ці Алеся Сёмуха, грамадзянін Францыі Лявон Шыманец альбо грамадзянін Вялікабрытаніі айцец Аляксандр Надсан — меншыя патрыёты Беларусі, чым цяперашнія кіраўнікі краіны.

Так што цяпер я маю два грамадзянствы — Беларусі і ЗША з 2005 года, але пашпарт толькі адзін — амерыканскі, беларускі так і не атрымаў. Не мае беларускага пашпарта і мая дачка, хаця з'яўляецца не толькі амерыканскай (нарадзілася ў ЗША), але і беларускай грамадзянкай (бацькі — грамадзяне Беларусі). Нам адказваюць: едзьце ў Мінск і афармляйце пашпарт дачцэ там. А калі бацькі не могуць ехаць? Я кажу: добра, я разумею, што калі ў дзіцяці бацька былы дэпутат парламента і непасрэдны ўдзельнік абвяшчэння незалежнасці краіны — гэта ў вашых вачах вялізны мінус, але калі бацькі, дапусцім, усяго толькі "асацыяльныя элементы" і не маюць грошай на паездку альбо, наадварот, маюць добрую працу, але не маюць часу на месячны вояж, чаму дзіця пазбаўлена таго, на што мае права па законе — мець пашпарт краіны свайго грамадзянства? Лукашэнкаўскія дыпламаты не могуць адказаць на гэтае пытанне. І ў такой сітуацыі сотні сем'яў, якія жывуць па-за межамі Беларусі. Для параўнання скажу, што мы двойчы мянялі дачцэ пашпарт, рабілі гэта ў амбасадзе ЗША ў Празе, гэта займала тры дні і каштавала, калі не памыляюся, 50 долараў.

**— Але я не разумею, чаму вы не можаце ехаць у Беларусь? Увогуле, чаму не вяртаецеся на радзіму? Няўжо думаеце, што тут існуе нейкая пагроза для вас?**

— Для адказу на ваша пытанне давядзецца вярнуцца ў 1996 год і нагадаць, што было адной з нагод нашай з Пазьняком просьбы аб палітычным прытулку. Гэта трэба зрабіць, бо многія альбо забыліся, альбо не ведаюць пра тыя падзеі.

Да 1996 года я быў дэпутатам Вярхоўнага Савета і каардынатарам парламенцкай Апазіцыі БНФ. Палітычна гэта статус значна вышэйшы, чым у якога заўгодна лідара сённяшняй апазіцыі, якая не прадстаўлена ў так званым "парламенце". У свой час менавіта я прапанаваў на сесіі ВС стварыць адмысловую камісію па вывучэнні псіхічнай адэкватнасці Лукашэнкі. Нагадваю гэта, каб прадухіліць пытанне, якое мне часам задавалі: "Ну Пазьняк — зразумела, ён быў лідарам апазіцыі, а вы ж ім не былі, дык што Лукашэнка меў супраць вас?" З пачатку красавіка 1996 года мы былі ў Варшаве — пасля таго, як была ўзбуджана крымінальная справа за мітынг 24 сакавіка, калі вакол майго пад'езда дзяжурылі аўтаматчыкі (гэта было сюжэтам папулярнай тады праграмы "Взгляд"), а ў Пазьняка ўвогуле быў ачэплены квартал, дзе ён жыў, пасля таго як у час нашага знаходжання ў Кіеве з Генпракуратуры Беларусі паслалі ліст у Генпракуратуру Украіны з патрабаваннем нас выдаць (украінцы адмовілі). У ліпені 1996-га кіраўнік камісіі па бяспецы расійскай Дзярждумы Ілюхін заявіў, што нібыта ЦРУ збіраецца забіць у Варшаве двух лідараў БНФ, а віну спісаць на Лукашэнку. Вось як — цытую — ацаніў гэта Васіль Быкаў: **"Я лічу, што Пазьняк і Навумчык свае магчымасці амаль што вычарпалі — для іх ужо не засталося легальнай магчымасці барацьбы, і сапраўды паўстала пагроза менавіта фізічнага знішчэння. Калі Ілюхін у Маскве агучыў пэўныя планы, дык можна меркаваць з пэўнасцю, што гэта не планы ЦРУ, гэта планы беларускага кіраўніцтва".** І калі ў жніўні 1996 года высокапастаўлены чыноўнік адміністрацыі ЗША са спасылкай на тагачаснага амбасадара Мартынава перадаў нам словы Лукашэнкі, што мы можам вяртацца і што з нашых галоў не ўпадзе ніводзін волас, — мы адказалі, што добра памятаем ноч збіцця дэпутатаў у Авальнай зале 12 красавіка 1995 года і клятвы Лукашэнкі нараніцу, што нас ніхто не збіваў. І мы не верым ніводнаму слову гэтага чалавека.

**— Сяргей, але ж гэта было ў 1996 годзе…**

— За 16 гадоў рэжыму не адбылося нічога, што прымусіла б мяне змяніць сваё стаўленне да абяцанняў Лукашэнкі. А лёс некаторых апанентаў Лукашэнкі пераканаў мяне ў правільнасці прынятага рашэння.

Лічыцца, што палітпрытулак даў нам прэзідэнт Клінтан. Але, наколькі мне вядома, ён напісаў рэзалюцыю: на разгляд Міністэрства юстыцыі. Ні Белы дом, ні Дзярждэпартамент не жадалі мяняць свайго звыклага і камфортнага стаўлення да Лукашэнкі як да чалавека, якога "можна навучыць дэмакратыі" (за месяц да гэтага Лукашэнку і Шырак у Парыжы прымаў як роўнага). І менавіта пасля нашай заявы Белы дом быў вымушаны перагледзець стаўленне да Лукашэнкі, і так званы "рэферэндум-96" адбываўся ўжо пад пільнай увагай міжнароднай супольнасці.

Пра стаўленне да мяне ўлад я магу меркаваць па стаўленні да маіх блізкіх. У 2004 годзе жонку не пусцілі на пахаванне бацькі. Маіх бацькоў некалькі разоў спынялі на мяжы, а маю сястру, якая таксама "Навумчык С.І." (Святлана Іосіфаўна), тры разы затрымлівалі на мяжы і трымалі па некалькі гадзін, пакуль не высвятлялася, што яна не тая "С.І.". Выглядае, што ўсё яшчэ працуе загад 1996 года "Пазьняка З.С. і Навумчыка С.І. пры ўездзе-выездзе — затрымаць", пра які ў свой час паведамляла газета "Свабода".

У эміграцыі я з першых дзён чую: "А вось я б не з'ехаў". Спіс аўтараў такіх заяў пачынаецца з былога старшыні Вярхоўнага Савета 13-га склікання Шарэцкага, які зараз жыве ў ЗША. Ёсць палітыкі, журналісты, літаратары, высокапастаўленыя вайскоўцы, бізнесмены, якія потым самі былі вымушаны з'ехаць у эміграцыю. Была камедыйная сітуацыя, калі адзін шаноўны дзеяч падчас публічнага выступу перад дыяспарай папракаў мяне за эміграцыю — а ўвечары цікавіўся ў мяне ж, якім бы чынам ён мог атрымаць палітычны прытулак. За эміграцыю нас гадамі папракалі на адным папулярным інтэрнэт-рэсурсе — аж пакуль яго рэдакцыя не была вымушана сама з'ехаць у поўным складзе. Так што ад гэтага я б нікому не раіў заракацца, каб потым не апынуцца ў недарэчным становішчы.

І апошняе — я ніколі не казаў бы гэта па сваёй ініцыятыве, але вы самі вымусілі гэта зрабіць. Каментуючы ў 1996-м нашу эміграцыю, Быкаў тады сказаў: **"Хацеў бы дадаць, ведаючы Пазьняка і Навумчыка, там іх не чакае прыватнае жыццё, яны і там будуць рабіць усё, самаахвярна рабіць на карысць Беларусі і Беларушчыны".** Не мне меркаваць, наколькі мая дзейнасць эфектыўная, але я ніколі не парываў сувязяў з Беларуссю і думаю, што ніхто не можа папракнуць мяне ў тым, што я не імкнуўся адпавядаць гэтым словам Васіля Уладзіміравіча, якія ўспрыняў як наказ.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

### Дасье «Народнай Волі»

Сяргей Навумчык — журналіст і палітык, працуе на Радыё Свабода.

У 1990—1996 гадах — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, каардынатар парламенцкай Апазіцыі БНФ.

11 красавіка 1995 года разам з іншымі дэпутатамі ад Апазіцыі БНФ абвясціў у Авальнай зале Дома ўрада галадоўку пратэсту супраць ініцыяванага Лукашэнкам рэферэндуму пра дзяржаўную мову і сімволіку. У ноч на 12 красавіка 1995 года дэпутаты былі выкінуты з залы пасяджэнняў і жорстка збіты спецназам.

У 1996 годзе пакінуў Беларусь. З 1997 года Сяргей Навумчык — намеснік старшыні Рады БНР.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча беларускага ПЭН-цэнтра.

Жанаты, мае дачку.

**ПОСЛЕ ТРАГЕДИИ**

# «Он даже не успел понять, что с ним случилось»

*Прошло 40 дней, как из жизни ушел народный артист Беларуси Яков Науменко. Певец был избит в Севастополе и спустя несколько дней, не приходя в сознание, умер в местной больнице. Убийца — наверное, мы вправе так называть того, кто ударил Науменко, — не найден.*

— Севастопольская милиция сразу занялась его поисками, — рассказала вдова Науменко Алла Яковлевна. — Были сняты записи с камер видеонаблюдения. К сожалению, камеры, которые были направлены именно на эту толпу, работали в режиме трансляции, но не записи. Племянница с мужем просмотрели все записи с соседних улиц. Видели себя, как они шли с катера на пирс, как проходили шлагбаум, как подошли к толпе… и все. Граница работы этой камеры заканчивалась.

***— А нападавшего кто-нибудь запомнил?***

— Да, есть несколько свидетелей, которые видели в лицо убийцу. Фоторобот преступника был составлен очень правдоподобно. Но пока никого не нашли.

***— Так что в тот день произошло?***

— Яша, Тихон, племянницы с мужьями отдыхали на пляже в Учкуевке. Когда возвращались, им надо было садиться на маршрутки на площади Нахимова. Там они услышали уличного музыканта. Вы представьте себе: южный город, воскресенье, полдевятого вечера, играет скрипач, из динамиков по площади льется музыка. А в это время в толпе находится нечто (человеком назвать его очень трудно), в котором кипит сумасшедшая агрессия. Все произошло в течение нескольких секунд. Яша и Тихон стояли в толпе, возможно, кто-то зацепил или локтем, или плечом. Да там искорки было достаточно! Яша услышал шум, повернулся и получил два удара. Он даже не успел понять, что с ним случилось. Первый удар был сильный, но он устоял на ногах, а вторым его просто вынесло из толпы.



**АДУКАЦЫЯ**

## *У школу вернуць профільныя класы?*

*Міністэрства адукацыі разглядае гэтае пытанне, паведаміў міністр Сяргей Маскевіч.*

Як вядома, класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў у беларускіх школах былі ліквідаваны дэкрэтам прэзідэнта у 2008 годзе. Замест іх у школах уведзены факультатыўныя заняткі, закліканыя даць жадаючым магчымасць вывучаць прадметы школьнай праграмы на павышаным узроўні.

*"Рэальная эфектыўнасць факультатыўных заняткаў невысокая",* — заявіў міністр адукацыі па выніках аналізу працы сістэмы агульнай сярэдняй адукацыі.

Паводле яго слоў, зараз Мінадукацыі працуе над вырашэннем гэтай праблемы. *"Можа, вярнуцца да профільнай сістэмы навучання: размеркаваць гэтыя факультатыўныя заняткі ў адной школе на матэматыку і фізіку, хімію і біялогію, у іншай — на гуманітарныя дысцыпліны. Можа, яшчэ нейкім чынам",* — сказаў Маскевіч.

Ён зазначыў, што рашэнне аб вяртанні да профільнай адукацыі неабходна будзе прымаць *"на самым высокім узроўні".*

Паводле яго слоў, пераход да профільнай адукацыі ў старэйшай школе павінен быць укаранёны пры ўмове, што ў 10—11-я класы з базавай школы будуць пераходзіць толькі вучні з высокай паспяховасцю, якія здольныя асвоіць паглыбленую праграму.

Для забеспячэння гэтага міністр прапаноўвае, каб экзамены за базавую школу праводзіліся незалежнымі структурамі. Сёння гэтыя іспыты арганізоўваюцца самімі ўстановамі агульнай сярэдняй адукацыі.

